Жыве Беларусь!



# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№202 (715) 15 кастрычніка 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.

## ФАКС

### Эксперты СНГ снимают преграды

**В штаб-квартире СНГ в Минске прошла первая рабочая встреча экспертов по программе стран Содружества об общих условиях и механизме поддержки развития производственной кооперации и прямых связей между предприятиями и отраслями стран — участниц СНГ.**

Был разработан и согласован проект соглашения. Он, в частности, предусматривает, что стороны не будут препятствовать открытию счетов в банках стран — участниц соглашения, а также указывает на то, что участники, которые его подписали, воздерживаются от требований оплаты за поставляемые товары в свободно конвертируемой валюте.

**Лариса КЛЮЧНИКОВА.**

### Заграница нам поможет?

**Постоянный представитель Республики Беларусь в ООН Геннадий Буравкин выступил в общей дискуссии в комитете 48-й сессии Генеральной Ассамблеи ООН.**

Постоянный представитель Беларуси подробно рассказал об экономическом положении республики, о том, как проходит ее обновление с учетом рыночных отношений. "К сожалению, — подчеркнул он, — в этих процессах практически пока еще не участвуют западные инвесторы, а накоплений финансовых ресурсов в частном секторе недостаточно для организации крупного современного производства".

### Аммиачное облако. Над Кобрином

**На Кобринской птицефабрике произошла утечка двухсот килограммов аммиака.**

Случилось это из-за халатности оператора одной из установок. К счастью, жертв нет, обошлось и без большого урона для предприятия. Маленькое облако рассеялось в окрестностях птицефабрики, которая стоит в стороне от жилых зданий.

**Иван КУКСА.**

### Молоко из Швейцарии. В больницы

**Правительство Швейцарии приняло решение безвозмездно передать 13 тонн сухого витаминизированного молока для детей из пострадавших от наводнения районов Полесья.**

Гуманитарная помощь уже начала распределяться в Лунинецком районе среди детских дошкольных учреждений, школ и сельских больниц.

**Сергей ВЕРАС.**

### Плакали ваши денежки

**В последнее время под прикрытием негосударственных структур все больше стали набивать свои карманы мошенники.**

Помогают им в этом средства массовой информации, публикуя непроверенные объявления. Хорошую рекламу дали некоторые из них и акционерному обществу "Беловежск", которое принимало денежные вклады у населения и юридических лиц в валюте с выплатой 14 процентов за каждый месяц хранения. Однако, получив значительную сумму денег, коммерсанты скрылись, как говорится, с места преступления. Теперь ведется следствие.

**Михаил ЖУРАВОВИЧ.**



### Вкратце

**Вчера в Барановичах начал свою работу семинар-совещание, который посвящен проблемам усовершенствования бюджетной и налоговой политики, разгосударствления и приватизации государственного имущества, обеспечения топливно-энергетическими ресурсами.**

Вступительным словом открыл его руководитель белорусского правительства В.Кебич.

❑

**До конца октября в Минске будут проходить Дни немецкой культуры.**

Они открылись 13 октября вечерним концертом по произведениям Людвига ван Бетховена в Белорусском обществе дружбы и культурной связи с зарубежными странами.

❑

**Совет Безопасности ООН постановил возобновить международное эмбарго на поставки оружия и нефти в Гаити с 19 октября.**

Резолюция принята по инициативе США в связи с беспорядками в порту Порт-о-Пренса, не позволившими причалить судну с миссией ООН в Гаити.

❑

**Комедией Эдуардо де Филиппо "Цилиндр" открыл свой второй сезон Гомельский независимый театр "НТ СФ Рекордс".**

❑

**В президентских структурах готовится проект указа Бориса Ельцина о проведении всенародного референдума по принятию новой российской Конституции.**

На суд россиян, которые придут к избирательным урнам 12 декабря, будет предложен единственный вопрос: "Принимаете ли вы Конституцию Российской Федерации?"

❑

**В Грозном запрещены митинги в поддержку Руслана Хасбулатова.**

Объясняя запрет митинга, чеченские власти заявляют, что происшедшее в Москве — это дело самой России и отголоски московских событий не должны дестабилизировать обстановку в независимой Чечне.

❑

**Пакистан — самая опасная в мире страна для иностранных бизнесменов.**

К такому выводу пришла одна из международных экономических организаций в результате проведенного ею опроса деловых людей со всех континентов планеты. "Предпринимательским раем" в результате опроса назван Сингапур.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Министерство безопасности прикажет долго жить?

**Со вчерашнего дня в Москве упорно ходят слухи о том, что на столе у президента Ельцина лежит готовый к подписанию документ о расформировании российского Министерства безопасности — правопреемника КГБ.**

Предполагается, что Министерство безопасности России будет разделено на несколько служб: по борьбе с контрабандой и коррупцией, с терроризмом, со шпионажем и по охране границ.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Редакторы сняты

**Прекратить издание ряда оппозиционных газет решило Министерство печати и информации России.**

"Содержание их материалов в значительной мере способствовало дестабилизации обстановки во время массовых беспорядков в Москве в конце сентября — начале октября 1993 года и организации этих акций", — говорится в решении министерства, принятом в среду.

Главные редакторы газет "Правда" и "Советская Россия" освобождены от занимаемых должностей. После перерегистрации выход этих изданий будет возобновлен под другими названиями.

### Клубы бывают не только хоккейные

**В Беларуси в недалеком будущем, возможно, появится "Канадский клуб".**

Как заявил инициатор создания клуба гражданин Канады Алесь Петровский, "их организация должна объединить людей, которые желают принять участие в развитии отношений между Канадой и Беларусью и имеют для этого способности и возможности".

Очень хорошо сказано насчет возможностей, господин Петровский!..

**Алесь СИВЫЙ.**

### Волки: а мы пойдем на север

**В Ивановском районе начали донимать волки, количество которых в последнее время заметно увеличилось.**

Звери настолько осмелели, что не боятся показаться на глаза людям, а в некоторых деревнях их жертвами стали домашние животные. Специалисты считают, что причина такой миграции — недавнее наводнение на Полесье.

### "Раёк" для театралов

**"Раёк" — так называется единственная в республике массовая театральная газета.**

Ее бесплатно получили вчера более двадцати тысяч подписчиков "Народнага слова" — печатного органа Витебского облсовета. Изящно оформленный восьмистраничный вкладыш под редакцией Владимира Гончарова, заведующего литературной частью театра имени Якуба Коласа, рассказывает о новых постановках, поднимает "занавес" над творческими планами труппы. Выпуск первого номера "газеты в газете" приурочен к началу очередного театрального сезона, который завтра по традиции открывается комедией "Нестерка". В заглавной роли — блистательный Евгений Шипило, отметивший накануне свое пятидесятилетие.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Пасля падзеі*

# Шушкевіч і салігорцы: крэдыт даверу пакуль ёсць

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

**"Кебіч, — у адстаўку!", "Патрабуем стварэння кааліцыйнага ўрада!", "Незалежнасць Беларусі трэба захаваць!" — з такімі плакатамі стаялі пікетчыкі каля Салігорскага гарвыканкама, калі да будынка падыходзіў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.**

**— Чаму вы мяне сустракаеце такімі патрабаваннямі? — спытаў Станіслаў Станіслававіч у пікетчыкаў.**

**— Можа, лепш звярнуцца на іншы адрас?**

**— Таму што вам яшчэ пакуль давяраем...**

Гэтыя словы крыху пазней паўтарыў на сустрэчы кіраўнікоў прадпрыемстваў, дэпутатаў гарсавета са Старшынёй Вярхоўнага Савета віцэ-прэзідэнт незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларусі Васіль Юркін. І падкрэсліў:

— Крэдыт даверу вам толькі да сесіі, якая пачнецца ў лістападзе...

Чаму я пачаў рэпартаж аб паездцы Станіслава Шушкевіча ў Салігорск менавіта з гэтых момантаў? Таму што ў іх, на мой погляд, сканцэнтравана сутнасць таго, што адбываецца зараз ў нашай рэспубліцы, і ў яе кіраўніцтве. З кожным тыднем жыццё людзей становіцца ўсё горшым, бесперапынна растуць цэны. Хто павінен адказваць за гэта? Вядома ж, тыя людзі, якія кіруюць нашай дзяржавай. Пра гэта вельмі ёміста сказаў дэпутат Салігорскага гарсавета Аляксандр Клішэвіч:

— Яшчэ год назад Старшыня Саўміна абяцаў, што ў нас будуць танныя хлеб, нафта і гэтак далей. Дзе цяпер тыя абяцанні? Праблемы, што ўзніклі зараз на Беларусі, можна вырашыць толькі палітычным шляхам. Тая палітычная сістэма, якая сёння існуе ў нас, даўно сябе зжыла. Вярхоўны Савет не можа нават вызначыць, чаго ён хоча, а палітыка ўрада нагадвае флюгер, які па волі ветру паварочваецца ў любы бок. То ў Гомелі гучаць заявы, што нам патрэбен новы СССР, што дарэмна мы гублялі час на стварэнне СНД. Аднак у Маскве адбываюцца вядомыя падзеі, і мы чуем зусім іншае. Таму Вярхоўны Савет ужо на гэтай сесіі павінен назначыць час новых выбараў, а ўрад павінен пайсці ў адстаўку!

Другі дэпутат гарсавета Ігар Уфімцаў не пагадзіўся з Аляксандрам Клішэвічам і заявіў, што не толькі палітычным шляхам трэба вырашаць нашы праблемы, трэба займацца і эканомікай, трэба як мага хутчэй стварыць спрыяльныя ўмовы для развіцця прыватных прадпрыемстваў.

— Калі людзі жывуць добра, то іх не хвалюе, у якім саюзе яны знаходзяцца. Яны проста жывуць. Чаму мы ўвесь час хочам нешта вынайсці? У нас ёсць свая дзяржава, давайце аб ёй думаць! А каму не патрэбен наш суверэнітэт, хай з'язджае з Беларусі! — гэтыя катэгарычныя словы сказаў дэпутат гарсавета Мікалай Новік.

Былі і іншыя выступленні на сустрэчы. Старшыня Салігорскага гарсавета Мікалай Юрчык у сваім дакладзе расказаў аб праблемах стотысячнага горада. Усе мы цудоўна ведаем, што вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій" калісьці будавалася і фінансавалася ўсёй вялікай дзяржавай. Зараз сітуацыя змянілася, і гэты монстр, як сказаў Мікалай Фёдаравіч, лёг на плечы горада. А ў Салігорску не хапае жылля, ачышчальных збудаванняў, вучнёўскіх месцаў. Закончыў свой даклад Мікалай Юрчык, як і многія яго калегі ў іншых рэгіёнах рэспублікі: ён папрасіў ад цэнтральнай улады дапамогі.

Выступіў на сустрэчы і Станіслаў Шушкевіч. Ён пагадзіўся з многімі дэпутатамі гарсавета, прызнаў, што Беларусь апынулася ў вельмі цяжкіх умовах. Параўноўваючы нашу дзяржаву з Расіяй, кіраўнік парламента сказаў, што мы — "стагнацыйная, застойная краіна".



❑ *Станіслаў Шушкевіч у шахце 2-га рудаўпраўлення.*

З залы задаваліся Станіславу Шушкевічу пытанні, гучалі рэплікі. Былі сярод іх і вельмі вострыя. Як, скажам, сцвярджэнне, што Станіслаў Шушкевіч павінен несці поўную адказнасць за той урад, які ім створаны.

— Не трэба блытаць, — адказаў Шушкевіч. — Калі ствараўся гэты ўрад, я быў проста намеснікам Старшыні, і кандыдатуру Старшыні Саўміна прапаноўваў Мікалай Іванавіч Дземянцей. Так што я не нясу адказнасці за гэты ўрад.

— Тады ці будзеце вы на бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета ставіць пытанне аб адстаўцы ўрада?

Станіслаў Шушкевіч хвіліну павагаўся і адказаў:

— Яшчэ Гарбачоў гаварыў, што палітыка — гэта мастацтва магчымага. І калі я не маю шанцаў правесці тое ці іншае пытанне, не мае сэнсу яго ставіць. Гэта рызыкоўна. Гэта нелагічна. Гэта проста пустазвонства. І таму не з рукі Старшыні Вярхоўнага Савета ставіць пытанне, якое будзе заведама правалена.

Было бачна, што адказ Старшыні Вярхоўнага Савета задаволіў не ўсіх, але жыццё ёсць жыццё. Усе мы маем свае погляды, прынцыпы. І павінны лічыцца з поглядамі і прынцыпамі іншых. А сама атмасфера, якая панавала і ў зале пасяджэнняў гарвыканкама, і ў шахце другога рудаўпраўлення ВА "Беларуськалій", і ў цэхах арэнднага прадпрыемства "Купалінка", народнага прадпрыемства "Калінка", дзе пабываў Станіслаў Шушкевіч, паказала, што ўзаемаразуменне паміж кіраўніком дзяржавы і яе грамадзянамі ёсць. І з боку прадстаўнікоў апазіцыйнага незалежнага прафсаюза гарнякоў пакуль што таксама. Але гэта зусім не азначае, што Старшыня можа сядзець склаўшы рукі.

Сітуацыя ў рэспубліках былога СССР мяняецца імкліва. І ў гэтых умовах толькі той палітык, якому давярае народ, мае права на будучыню. А каб не згубіць давер, трэба працаваць на карысць не сабе, а свайму народу. Прапісная ісціна. Але не ўсе яе хочуць памятаць...

*У камісіях Вярхоўнага Савета*

## Праект праграмы адпраўлены на дапрацоўку

**14 кастрычніка Камісія па праблемах чарнобыльскай катастрофы Вярхоўнага Савета абмеркавала падрыхтаваны ўрадам праект дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі ў Рэспубліцы Беларусь вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 1993—1995 гады і на перыяд да 2000 года.**

Яе прадставіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Іван Кенік.

Неабходнасць карэкціроўкі ранейшай праграмы, сфарміраванай у 1989 годзе, на думку Івана Кеніка, выклікана тым, што яна стваралася пры адсутнасці сур'ёзных канцэптуальных падыходаў і дастаткова глыбокіх ведаў па асноўных момантах вынікаў трагедыі. Тады былі максімальна ўлічаны ўсе прапановы пацярпеўшых рэгіёнаў як па аб'ёмах капітальных укладанняў, так і па бюджэтных асігнаваннях. У той момант такі падыход быў апраўданы, паколькі рэспубліка пацярпела не па сваёй віне і кампенсаваць яе страты за кошт саюзных сродкаў было справядліва. Аднак цяпер сітуацыя змянілася: рэспубліка можа разлічваць толькі на адзіную і небагатую крыніцу фінансавання — чарнобыльскі падатак. Акрамя гэтага, Вярхоўным Саветам прыняты шэраг чарнобыльскіх законаў, і перш за ўсё аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад Чарнобыля. У сувязі з гэтым Савет Міністраў прапануе, не мяняючы асноўных мэт і задач дзяржаўнай праграмы, больш канкрэтна ўдакладніць яе ў адпаведнасці з прынятымі заканадаўчымі актамі, вынікамі навуковых даследаванняў, нарматывамі і пераспецыялізацыяй сельскай вытворчасці. Урад прапануе пакінуць у праграме галоўнае, што мае непасрэдныя адносіны да захавання здароўя людзей і іх сацыяльнай абароненасці. Як адзначыў Іван Кенік, "асноўная мэта праграмы — рэалізацыя комплексу сацыяльных і аздараўленчых мерапрыемстваў па зніжэнню дозавых нагрузак насельніцтва, якое падвергнулася "ўздзеянню радыяцыі". Для гэтага прапануецца прыярытэтнае развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы паліклінічных і дыягнастычных устаноў аховы здароўя ў зоне 1—15 кі/кв. км і будаўніцтва аздараўленчых цэнтраў для дзяцей і дарослых у чыстых раёнах рэспублікі, развіццё сацыяльна-бытавой інфраструктуры ў зонах з правам на адсяленне і пражыванне з перыядычным радыяцыйным кантролем, правядзенне мерапрыемстваў па аднаўленню прамыслова-вытворчага патэнцыялу забруджаных радыенуклідамі тэрыторый і г.д. У адпаведнасці з праектам праграмы на 1993—1995 гады на яе рэалізацыю запатрабуецца ў дзеючых цэнах 2144,2 мільярда рублёў.

Вядома, лічба ў два з лішнім трыльёны рублёў уражвае. Але і яна ўяўляецца невялікай у параўнанні з агульным уронам, што панесла рэспубліка ад катастрофы, — а ён вылічваецца 30 гадавымі бюджэтамі. І, вядома, ужо цяпер зразумела, што спатрэбяцца доўгія дзесяцігоддзі, каб рэспубліка справілася з гэтай бядой. Таму, абмяркоўваючы праект урада, члены парламенцкай камісіі звярнулі ўвагу яе стваральнікаў на неабходнасць эканамічных падлікаў усіх прапануемых мерапрыемстваў.

У ходзе дыскусіі парламентарыі прыйшлі да думкі, што работу над праектам праграмы трэба прадоўжыць. Будзе створана пагаджальная камісія, члены якой яшчэ раз прапрацуюць кожную заўвагу парламентарыяў.

**Ларыса ЛАЗАР, Белінфарм.**

*Слово — знающему человеку*

## Как выйти из кризиса?

**Василий ШЛЫНДИКОВ, президент концерна "Амкодор", член-корреспондент Белорусской инженерной технологической академии**

12 августа с.г. я выступил в "Народной газете" со статьей "Как преодолеть кризис". В продолжение тех размышлений о возможных экономических моделях развития республики, путях выхода из кризиса я сегодня хотел бы высказаться по двум ключевым моментам: о механизме использования средств от приватизации и антимонопольной политике.

Даже если будет проводиться бессмысленная ваучеризация, государство все равно получит уникальный шанс стабилизировать финансовое положение, инвестировать получаемые от приватизации средства в приоритетные отрасли экономики. Предоставится исключительная возможность через механизм приватизации провести структурную перестройку экономики.

Структурная перестройка промышленности является важнейшим элементом проводимых реформ, можно сказать, даже ее венцом, завершением. Необходимо перепрофилировать большое количество предприятий исходя из имеющихся в республике ресурсов, в том числе энергетических, подчинить работу промышленности нуждам населения. Необходимо создать целые отрасли, которые работали бы на человека, в том числе в сфере всевозможных услуг; поддержать предприятия, имеющие шанс успешно работать на внешних рынках; реализовать национальную энергетическую программу.

Нам надо самым внимательным образом изучить экономический механизм небольших стран, не имеющих собственных сырьевых ресурсов и энергоносителей и взять из их опыта все, что можно применить. Главным здесь является привлечение через соответствующие механизмы иностранного капитала, создание для него налогового рая.

Убежден, что ваучеризация — это закладка очередной бомбы замедленного действия под общество. Ведь значительная часть, к примеру, российских граждан продали свои ваучеры за мизерную цену, а большинство скоро поймет, что его ваучер — это ничто. И в то же время появилось немало людей действительно богатых. Будет формироваться общественное мнение, что народ обманут. (Хотя такая цель, конечно же, не ставилась при принятии соответствующих законов и в России и у нас.) И тогда появится искушение снова все переделать. Даже если события будут развиваться по другому сценарию и люди просто махнут на все происходящее рукой, то ваучеризация все равно нанесет вред обществу, так как не решит ни одной экономической проблемы, лишит государство средств для преобразования экономики во благо тех же людей.

**(Окончание на 2-й стр.)**

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб звальненні ў запас ваеннаслужачых, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны ваеннай службы, і аб чарговым прызыве грамадзян на ваенную службу ў кастрычніку—снежні 1993 г.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Звольніць з радоў Узброеных Сіл, унутраных, пагранічных, чыгуначных войск і іншых воінскіх фарміраванняў рэспублікі ў запас ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны ваеннай службы.

2. Прызваць у кастрычніку—снежні 1993 г. на тэрміновую ваенную службу ва Узброеныя Сілы, пагранічныя, унутраныя, чыгуначныя войскі і іншыя воінскія фарміраванні рэспублікі грамадзян мужчынскага полу, якім да дня прызыву споўнілася 18 гадоў і якія не маюць права на адтэрміноўку ад прызыву, а таксама грамадзян старэйшых прызыўных узростаў, якія страцілі права на адтэрміноўку ад прызыву.

Прызыўнікі, якія пацярпелі ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, накіроўваюцца для праходжання ваеннай службы ў воінскія часці, не звязаныя з крыніцамі іанізуючага выпраменьвання, звышвысокімі частотамі, кампанентамі ракетнага паліва і не знаходзяцца на радыеактыўна забруджаных тэрыторыях.

3. Выканкамам абласных, гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў, ваенным камісарыятам забяспечыць правядзенне прызыву грамадзян на ваенную службу, выдзеліўшы для гэтага неабходны персанал і транспарт. Прыняць меры па стварэнню на прызыўных і зборных пунктах належных бытавых умоў і парадку.

4. Беларускай чыгунцы забяспечыць выдзяленне па заяўках Міністэрства абароны неабходнай колькасці месц у пасажырскіх вагонах і перавозку прызыўнікоў ва ўзгодненыя тэрміны.

5. Органам унутраных спраў па прадстаўленнях ваенных камісараў прымаць меры да вышуку і дастаўцы на прызыўныя пункты асоб, якія ўхіляюцца ад яўкі ў ваенны камісарыят для вырашэння пытання аб прызыве на тэрміновую ваенную службу.

6. Міністэрству абароны прадставіць да 5 лютага 1994 г. у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь інфармацыю па выніках прызыву.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.КАЎКО.**

13 кастрычніка 1993 г.
г.Мінск. N 691.

